*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 14 (802) 4 КРАСАВІКА 2007 г.

# 450 гадоў з дня нараджэння канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі



*Медаль "Леў Сапега. За адраджэньне беларускай дзяржаўнасьці". Медальер Валянцін Прыешкін. Бронза, ліццё. 2007 г. Музей выяўленчага мастацтва Фонд Анатоля Белага. г. Старыя Дарогі. Медаль створаны па замове Камітэта Ушанавання клуба "Спадчына" да 450-годдзя Л. Сапегі.*

Сапега Леў Іванавіч (4.4.1557, в. Астроўна Віцебскага пав.—7.7.1633), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Са старэйшай, чарэйскай лініі магнацкага роду Сапегаў, сын Івана Іванавіча Сапегі, старасты дарагічынскага і падстарасты аршанскага, і Багданы Друцкай-Саколінскай. Пісар вялікі ВКЛ у 1581—85, падканцлер у 1585—89, канцлер у 1589—1623, ваявода віленскі з 1623 і адначасова гетман вялікі з 1625. Праваслаўны, вучыўся ў кальвінісцкіх настаўнікаў у Нясвіжы, у 1570—73 у Лейпцыгскім ун-це, дзе перайшоў у кальвінізм. Добра ведаў замежныя мовы. У 1579—81 на чале гусарскай харугвы прымаўудзел у Інфлянцкай вайне 1558—82. Разам з канцлерам А.Б. Валовічам і падканцлерам К.Радзівілам удзельнічаў у стварэнні Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага. У 1586 перайшоў у каталіцтва. У час бескаралеўя ў 1587 прапаноўваў план федэрацыі Польшчы, ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы з адным каралём. Узначальваў соймавую камісію па падрыхтоўцы Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588, адрэдагаваў яго тэкст і фінансаваў яго выданне ў віленскай друкарні Мамонічаў. З 1589 як канцлер стаў кіраўніком знешняй і ўнутр. палітыкі ВКЛ. На царк. саборы ў Берасці ў 1596 як каралеўскі камісар выступіў у абарону царк. уніі. Па яго загадзе ў 1594—1607 былі нанава перапісаны кнігі Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага, каб пры карыстанні яны не прыходзілі ў непрыгоднасць (новыя кнігі зберагліся да нашага часу). У 1600—01 узначальваў пасольства ў Маскву, але дзярж. уніі з Масквой не дамогся. С. не падтрымаў Ілжэдзмітрыя І, і падтрымаў Ілжэдзмітрыя ІІ. Удзельнічаў у перагаворах з маскоўскімі пасламі, у выніку чаго падпісана Дэўлінскае перамір'е 1618. У сваёй палітыцы адстойваў суверэнітэт ВКЛ у складзе федэратыўнай Рэчы Паспалітай, няўхільна прытрымліваўся 12-га артыкула 3-га раздзела Статута ВКЛ 1588, які забараняў раздаваць польскай шляхце маёнткі і пасады ў ВКЛ. С. быў адным з найбагацейшых магнатаў.

## Леў Сапега ў Беларусі не забыты



НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
пр. Незалежнасці, 66, 220072, г. Мінск
Тэл./факс (017) 284 28 16
E-mail: nasb@presidium.bas-net.by
URL: http://nasb.gov.by

НАЦИОНАЛЬНАЯ АКАДЕМИЯ НАУК БЕЛАРУСИ
пр. Независимости, 66, 220072, г. Минск
Тел./факс (017) 284 28 16
E-mail: nasb@presidium.bas-net.by
URL: http://nasb.gov.by

22 сакавіка 2007 г. №30–01/1104
На №10/535-29 ад 28.02.2007;
13 ад 12.02.2007
39 ад 17.03.2007

Старшыні
Грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб ушанаванні памяці Льва Сапегі

Паважаны Алег Анатольевіч!

Ваш зварот на імя Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Нвыгласа Г.М. і старшыні Прэзідыума НАН Беларусі Мясніковіча М.У. разгледжаны ў Аддзяленні гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

У межах сваёй кампетэнцыі НАН Беларусі паведамляе, што ў красавіку 2007 года Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы сумесна з Інстытутам гісторыі НАН Беларусі плануецца правядзенне міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая будзе прысвечана жыццю і дзейнасці канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі.

**Намеснік Старшыні Прэзідыума**
**Нацыянальнай акадэміі**
**навук Беларусі** **А.І.Леснікові̇ч.**



РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
ГРОДЗЕНСКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ ІДЭАЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ
вул. Ажэшкі, 3, 230023, г. Гродна,
тэл. (0152) 77-01-18, 77-15-49, факс 75-26-99
E-mail: uio@uio.belpak.grodno.by

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
ГРОДНЕНСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ ИДЕОЛОГИЧЕСКОЙ РАБОТЫ
ул. Ожешко, 3, 230023, г. Гродно,
тел. (0152) 77-01-18, 77-15-49, факс 75-26-99
E-mail: uio@uio.belpak.grodno.by

21.03.2007 № 96/1-10
На № ______ ад ______

**г. Минск, ул. Румянцева, 13,**
**Трусову О. А.**

На Ваше обращение в Администрацию Президента Республики Беларусь Гродненский областной исполнительный комитет сообщает, что имя Льва Сапеги, государственного и политического деятеля Великого Княжества Литовского, сохранено на территории Гродненщины.

В г. Слониме одна из площадей носит имя Льва Сапеги, в фондах районного краеведческого музея имеются экспонаты, посвященные Льву Сапеге, сохранена планировка улиц, заложенная при нем.

В связи с 450-летием со дня рождения Льва Сапеги в городе Гродно 4-5 апреля 2007 года Министерство образования Республики Беларусь, учреждение образования Гродненский государственный университет имени Янки Купалы проводят международную научную конференцию «Лев Сапега (1557-1633 г.г.) и его время» с участием ученых Республики Беларусь, Литовской Республики, Республики Польша, Российской Федерации, Украины.

В городе Лида со 2 по 7 апреля историко-художественным музеем будет проведена неделя информации, посвященная Льву Сапеге, в Лидской центральной библиотеке и филиалах организованы книжные выставки «Лев Сапега - канцлер Великого Княжества Литовского».

В школах города будут проведены тематические часы о Льве Сапеге и его деятельности.

**Начальник управления** **В.П.Омелько.**

*(Іншыя матэрыялы пра Льва Сапегу чытайце на стст. 2-3.)*

# Захавальнік і ахоўнік нашага слова

Не стала Рагойшы Антося Іосіфавіча. Дзядзькі Антося, як усе мы, блізкія родзічы, пляменнікі і не пляменнікі, называлі яго ў гонар Коласавага дзядзькі Антося, сімпатычнейшага персанажа "Новай зямлі". Як і коласаўскі дзядзька Антось, ён быў вялікім працалюбам, сямейнікам, прыроджаным (а пасля і прафесійным) педагогам, адменным знаўцам прыроды. Сын патом-



ных сялян з Пярэжар, што каля Ракава, ён пераняў ад бацькоў лепшыя рысы беларускага хлебароба. Хоць пасля і стаў інтэлігентам у першым пакаленні, але - не ў прыклад яго некаторым калегам - назаўсёды захаваў у сваім сэрцы і бязмежную любоў да зямлі-карміліцы, да роднага кута, Бацькаўшчыны-Беларусі, да роднага, беларускага, нашага слова. Больш таго, стаў актыўным прапагандыстам і ахоўнікам усяго беларускага, у тым ліку - і беларускай мовы.

Адыход Антося Іосіфавіча 18 сакавіка г. г. у лепшы свет з жалем успрынялі ўсе, хто яго ведаў і хто яшчэ пакуль што застаўся на гэтым свеце. Гэта былыя вучні Ракаўскай польскай сямігодкі і Вілейскай беларускай гімназіі, студэнты фізіка-матэматычнага факультэта былога Гарадзенскага педінстытута, які ён у свой час закончыў, настаўнікі і вучні Мастоўскай і Ражанкаўскай сярэдніх школ, дзе ён пасля працаваў, калегі па аспірантуры Менскага педінстытута імя М. Горкага, студэнты і выкладчыкі цяперашняга Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, дзе Антось Іосіфавіч выкладаў матэматыку і ажно пятнаццаць год узначальваў факультэт методыкі пачатковага навучання. Я ўжо не кажу пра родзічаў, сяброў, а таксама пра суседзяў па Ракаўскаму лецішчу, якое ён разам са сваёй неразлучнай Марыяй Іванаўнай набыў некалькі гадоў таму назад, калі сужэнцы пераехалі з Гародні ў Менск, бліжэй да сваіх дзяцей, Аляксандра і Генадзя - супрацоўнікаў хімфака БДУ...



Лёс падараваў Антосю Іосіфавічу сяброўства з некаторымі выдатнымі асобамі, у тым ліку - з вядомым вучоным і пісьменнікам, прафесарам Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім. Сяброўства гэта, якое пачалося яшчэ ў студэнцкім інтэрнаце Гарадзенскага педінстытута, многае дало Антосю Іосіфавічу. Але і Фёдар Міхайлавіч, які добра ведаў радню свайго сябра, партызанячы, а пасля вайны і працуючы паблізу яго родных мясцін, нямала ад яго успрыняў. І сюжэтаў для сваіх абразкоў, і сакаўных слоўцаў, моўных выразаў з Ракаўшчыны, дзе беларуская мова, у яе блізкім да літаратурнага варыянце, распаўсюджана, на шчасце, даволі шырока. Я памятаю, як Фёдар Міхайлавіч, які нарадзіўся і гадаваўся ў БССР, уважліва слухаў расказы свайго заходнебеларускага сябра - "аповеды дзядзькі Антося". Менавіта пад такой рубрыкай асобныя з іх пазней былі надрукаваны ў газеце "Ракаўскі шлях".

Антось, які нарадзіўся 25 студзеня 1925 года, быў апошнім, шостым дзіцем у вялікай і дружнай сям'і Язэпа і Алены Рагойшаў. Сям'і, якая здаўна была далучана да беларушчыны. Бацьку свядомым беларусам зрабілі рэвалюцыйныя падзеі, калі ён быў абраны ў павятовы Савет сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Як прыгадваў дзядзька Антось, ягоны бацька яшчэ пры паляках, едучы з Ракаўскага кірмашу, не прамінаў, каб не купіць беларускі каляндар або якую-небудзь іншую беларускую кніжку. Вечарамі ў пярэжарскай хаце Рагойшаў збіраліся вяскоўцы паслухаць вершы Купалы, Коласа, Багдановіча, Крапівы, Танка, іншых паэтаў. Відаць, ужо тады ў аднаго з братоў, Косці, успыхнулі іскры паэтычнага натхнення, якія час ад часу арыгінальнымі вершаванымі радкамі асвятлялі старонкі "Шляху моладзі", маладзечанскай раённай газеты, абласной "Вілейскай праўды"... Сёння асобныя з вершаў Кастуся Рагойшы, настаўніка, дырэктара Пугачоўскай няпоўнай сярэдняй школы, беспадстаўна рэпрэсаванага ў 1948 годзе і па часе цалкам рэабілітаванага, можна прачытаць у анталогіі "Люблю наш край...: Валожыншчына літаратурная" (Мінск: Мастацкая літаратура, 2006, стар. 187—190). І гэта ў вялікай ступені дзякуючы Антосю Рагойшу, які напісаў да публікацыі цікавы ўсгупны артыкул. Што да беларускасці іншых родзічаў Антося Іосіфавіча, то чаго вартая адна Марыя Іванаўна, якая паўстагоддзя прывівала вучням любоў да беларускай мовы і літаратуры, працуючы на Гарадзеншчыне настаўніцай. Радаваўся дзядзька Антось, што ўсе Рагойшы "засталіся шчырымі беларусамі". Гэта ён напісаў у сваім допісе "З радаслоўнага кораня", што ўвайшоў у кнігу "Памяць: Валожынскі раён" (Мінск: Мастацкая літаратура, 1996, стар. 413—416). Закончыў ён той допіс наступным прызнаннем (даруйце за ўпамінанне ў ім і майго імя): "Брат Іван загінуў на вайне. Рыгор жыве на бацькоўскай сядзібе, вельмі радуецца звесткам беларускага адраджэння і засмучаецца, калі чуе пра нацыянальны нігілізм беларусаў. Яму ўжо 77 гадоў. Старэйшы брат Пётр выгадаваў слаўнага сына - вядомага літаратуразнаўца Вячаслава Рагойшу. Сам я выкладчык матэматыкі Гарадзенскага універсітэта, першы ва універсітэце пачаў выкладанне матэматыкі па-беларуску. Мой сын Аляксандр першы ў БДУ (і, мусіць, у менскіх ВНУ) пачаў выкладанне хіміі на беларускай мове. Сястра Надзя, настаўніца пачатковых класаў, як магла прывівала любоў і павагу да ўсяго роднага. Яе дачка выкладае ў школе беларускую мову і літаратуру. Дзякаваць Богу, ніхто са сваякоў не здрадзіў, ярна ці няяўна, роднай Беларусі".

Антося Рагойшу назаўсёды прыняла да сябе ракаўская зямліца.

Але жыве ягоная душа.

Яна - ва ўсім, што ён пасля сябе пакінуў. У тым ліку - і ў ягоных сынах, у родным унуку, поўным цёзку, цяперашнім студэнце-гісторыку Антосю Рагойшы. Бо заўсёды запаветам бацькі і дзеда было:

*Годзе ныць:*
*"Загіне Айчына... "*
*Лепш з сябе пачынай без прынукаў:*
*Навучы роднай мове сына,*
*Навучы роднай мове ўнука!*

***Вячаслаў Рагойша.***

# З БЫКАВЫМ У СЭРЦЫ

Гарадзенскае гарадское грамадскае аб'яднанне ветэранаў вайны, працы і Ўзбоеных Сілаў абвяшчае конкурс сачыненняў "З БЫКАВЫМ У СЭРЦЫ".

Калі вы любіце Беларусь, калі вас хвалюе лёс аднаго з вялікіх рупліўцаў — пісьменніка Васіля Быкава, а сэрцу ёсць што сказаць, то ў такім выпадку запрашаем прыняць удзел у нашым конкурсе.

Мэта конкурсу: абудзіць у вучняў цікавасць да асобы Васіля Быкава, да яго твораў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне.

Умовы конкурсу: у ім могуць прыняць удзел вучні ад 7-га да 11-га класа ўключна і студэнты ўсіх курсаў.

**ТЭМЫ, ЯКІЯ ПРАПАНУЮЦЦА ДЛЯ УДЗЕЛЬНІКАЎ КОНКУРСУ:**

1. "Чытае свет яго вайну"(Д. Бічэль).
2. Горкая праўда пра Вялікаю Айчынную вайну ў творах Васіля Быкава.
3. Урокі кахання, дабрыні і чалавечнасці ў кнігах Васіля Быкава, прысвечаных вайне ("Альпійская балада", "Абеліск", "Воўчая зграя").
4. Вобраз селяніна-кулака Хведара Роўбы ў аповесці "Аблава".
5. "Васільком у жыце Беларушчыны назаўсёды застанецца Васіль Быкаў" (Р. Барадулін).
6. Гародня - горад, "які гэтак грунтоўна і на шмат год прычыніўся да майго чалавечага лёсу" (В. Быкаў).
7. Мой праект помніка і вуліцы Васіля Быкава ў Гародні.

**Абавязковыя патрабаванні да сачыненняў:**

1. Сачыненне павінна быць на беларускай мове.
2. Змест сачынення павінен раскрываць абраную тэму, утрымліваць уласныя думкі, меркаванні, асабісты арыгінальны погляд вучня на жыццё і творчасць Васіля Быкава.

Заўвага: форма і памер работы не абмяжоўваюцца.

Конкурс у конкурсе: асобны дадатковы конкурс будзе праведзены для тых, хто дашле вершы і малюнкі на прапанаваныя тэмы.

Тэрмін адсылкі прац: да **24-га красавіка 2007 года** па адрасу: Гродна, 230023, вул. Савецкая, дом 31, пакой 12.

Даведкі па тэлефонах: 74-11-98, 48-42-12.

Вынікі конкурсу будуць падведзены да 9 траўня 2007 г.

# "Лінія фронту — 2"

У менскім выдавецтве "Логінаў" на беларускай і нямецкай мовах выйшла анталогія сучаснай беларускай і нямецкай прозы і паэзіі "Лінія фронту — 2".

Як паведаміў БелаПАН адзін з куратараў і аўтараў кнігі, беларускі літаратар, мастак і перформер Зміцер Вішнёў, у 245-старонкавы зборнік уключаны творы 16 беларускіх і нямецкіх аўтараў. "Першае выданне анталогіі выйшла ў 2003 годзе і выклікала пэўны рэзананс у літаратурных колах Беларусі і ФРГ. У адказ на пажаданне нямецкага боку паўтарыць выданне мы з Вольгай Гапеевай прапанавалі зрабіць іншы варыянт анталогіі, уключыўшы ў яе новых аўтараў. Калі ў першым выданні перакладаў на нямецкую мову ажыццяўляў толькі Андрэ Бем, то для "Лінія фронту — 2" гэтую працу разам з Бемам рабілі Катарына Нарбутовіч і Марціна Мрохен", — зазначыў З.Вішнёў.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 2. 4. 2007 г. у 10.00. Замова № 944.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.